Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

21—27 лістапада 1998 года
№ 73 (153)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## Як Івацэвічы Мінску нос уцерлі

**"Так, напрыклад, каўбасны цэх выпусціў 1,5 тоны каўбасы па 140000 рублёў за кілаграм, якая паступіла ў гандаль. У тым жа Мінску каўбасы па такой цане не знайсці" ("Івацэвіцкі веснік", № 100, з інтэрв'ю В. А. Власаўца рэдактару Р. Радзюку).**

Калі казаць шчыра, то супрацоўнікі "Газеты для вас" ледзь усе дзелі на сваіх месцах, калі прачыталі пра "явление народу" таннай каўбасы на старонках афіцыйнай раённай газеты. Ну, вось, думалі мы, нарэшце мяжу паміж горадам і правінцыяй сцерлі, і мы сталі забяспечвацца харчамі лепш, чым нейкі там Мінск. Не адкладваючы ўрачысты момант узважвання і паступовага перамяшчэння гэтага любімага прадукта ў нашыя сумкі, у 17 гадзін увесь працоўны калектыў "Газеты для вас" накіраваўся ў самыя розныя магазіны горада. Нават адсутнасць чэргаў нас не засмуціла: усё ж каўбасы выпушчана паўтары тны; спажывец, відаць, стаміўся купляць і есці гэты дэлікатэс.




Але... ні ў адным з магазінаў нашага райцэнтра у сераду, 18 лістапада на 17.00 вечара каўбасы танней за 227.000 не аказалася. У сувязі з чым узнікаюць некаторыя пытанні. Ці не на нябёсах сядзелі В. Власавец і Р. Радзюк, ведучы з такім замілаваннем размову, нібы кукушка з пеўнем? Ці не маглі яны апусціць вочы долу і зазірнуць хаця б у адзін магазін горада?

З другога боку, калі ж гэтыя 1,5 тоны каўбасы былі на самой справе ў магазінах, то для горада амаль з 20.000 насельніцтвам яны мясной праблемы ну аніяк не вырашаюць. Калі ўявіць, што гэтую каўбасу пачалі прадаваць па спісах, то кожнаму з нас дасталося б па 75 грамаў. Напэўна, і самі Власавец і Радзюк ад такой пайкі, як гаворыцца, завылі б. Прынамсі, такімі добра дагледжанымі, як цяпер, не былі б.

## Эх, жыццё п'янае...

Амаль штодня, не гаворачы ўжо пра выхадныя, на вуліцах райцэнтра вечарам чутны п'яныя галасы і нават песні. Гэта людзі ідуць дамоў з песнямі. Хто з працы, хто з гасцей. І ў кожнага свая прычына, каб у чарговы раз выпіць. Хто за любоў, хто за абноўку, а хто проста пахмяліўся...

Асобныя выпівакі да хаты не даходзяць, а начуюць у казённым доме — у медвыцвярэзніку, Дарэчы, у ім сёлета за дзесяць месяцаў пабывала 1249 чалавек. Гэта на 449 чалавек больш, чым за такі перыяд летась. У ліку начлежнікаў было 25 жанчын. Так што і слабы пол цягнецца да моцнага напою.

Калі да ліку наведвальнікаў медвыцвярэзніка дадаць яшчэ тых мужыкоў і жанчын, што пастаянна ўжываюць спіртныя напіткі ў сельскай мясцовасці, у нашых вёсках, вялікіх і малых, то, думаецца, была б унушальная лічба, аналітычны каментар якой не кожны змог бы зрабіць.

Цікавая такая заканамернасць: чым горш жывецца простаму люду, тым больш п'юць. Даўняя традыцыя і сёння яшчэ жывучая. І даволі моцна. Эх, жыццё п'янае...

## Ні хлява, ні веласіпеда

Народная мудрасць сцвярджае, што злодзей, які ўлез у чужое памяшканне, знікаючы, пакідае хоць чатыры вуглы. А вось агонь, які ўспыхвае ў нейкай будыніне, не пакідае пасля сябе нічога. Што з гэтага горшае ці лепшае? Вядома, што і першае, і другое прыносіць людзям матэрыяльныя страты. Гэта адчуў нядаўна на сябе пенсіянер Б., жыхар вёскі Быцень. А справа была так.

Ноччу пенсіянера разбудзілі крыкі і стук у акно суседзяў. Глянуўшы ў акно, гаспадар ледзь не згубіў прытомнасаць. Гарэў хлеў. А ў ім усё нажытае сям'ёй. Карову, свінчо змаглі выгнаць. Астатняе згарэла.

Што ж здарылася, калі сярод ночы ўспыхнуў пажар?

Папярэдняе следства паказала, што ў хлеў пенсіянера прабраўся злодзей. А там стаялі два веласіпеды. Аднаго вывеў з варот і паставіў пад сцену. Відаць, не спадабаўся. Пайшоў за другім. А свяціў у тым хляве запалкамі. Рабіць падпал не ўваходзіла ў планы злодзея. Але спяшаўся, і тыя недагарэўшыя запальчыны кідаў абы-дзе. Вось і загаранне. Злодзей, як сцвярджаюць, стаў яшчэ і падпальшчыкам.

## ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО ПОЛУЧИЛИ. И ПРОМОЛЧАЛИ...

Председатели областных, городских, районных исполнительных комитетов и Советов депутатов получили копию Открытого письма Президенту Республики Беларусь А. Г. Лукашенко, подписанное председателем Национального исполнительного комитета Г. Карпенко. В письме, которое было опубликовано в центральных независимых газетах, кратко характеризуется состояние экономики и уровня жизни людей в Беларуси: "...разорены лучшие предприятия страны, почти все совхозы и колхозы. До опасной черты снизилось производство сельхозпродукции... Рубль обесценился более чем в сто раз!.. Население страны с 1995 года ежегодно уменьшается на 30—40 тысяч человек. Отсутствует медицинская помощь, нет самых необходимых лекарств даже по баснословным ценам. Только три процента детей являются здоровыми..."

Исходя из этого и многого другого, национальный исполнительный комитет требует объявить приоритетом номер один экономическую политику, направленную на создание производств с новыми технологиями и новой техникой. Строить политический и экономический курс страны исключительно на базе национальных интересов, незыблемости независимости белорусского государства. Демократия, верховенство закона, равенство субъектов всех форм собственности, безусловная ответственность государства за социальное и пенсионное обеспечение, здравоохранение и образование должны стать основой внутренней политики...

В Открытом письме содержатся конкретные оценки исполнительной власти, экономические и политические требования. Письмо, без сомнения, прочитано всеми, кому адресовано. Вместо ответа — молчание...



*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы), фотакор А. ГАНЧУК.*

БЯРОЗА

## Імгненні — назаўсёды

У цэнтральнай раённай бібліятэцы адкрыта фотавыстаўка "Імгненні — назаўсёды". Яе аўтар — таленавіты фотажурналіст, рэдактар раённага радыё Іван Аскірка — прадставіў больш за 50 фотасюжэтаў з жыцця Бярозаўскага раёна. Яны напоўнены высокім сэнсам працы і яе людзей. Прыцягвае ўвагу наведвальнікаў выставы партрэт старэйшага ўдзельніка мастацкай самадзейнасці, ветэрана вайны Івана Кожуха з вёскі Пескі, здымак — сустрэча касманаўта Ул. Кавалёнка са старшынёй калгаса-аграфірмы "Малеч" Іванам Данілавічам, фота працаўнікоў вёскі, дзяцей. Група здымкаў прысвечана будаўніцтву жылля для ваеннаслужачых, якія былі ў свой час выведзены з ГДР. Гэта будаўніцтва вяла нямецкая фірма. На адным са здымкаў знята імгненне перадачы сімвалічнага ключа ад пабудаванага жылога комплекса, які перадае главе адміністрацыі Бярозаўскага раёна праараб нямецкай фірмы Зоппарт...

## Операция "Колесо"

проведена неизвестными злоумышленниками в Березе. В микрорайоне улицы Северной, на улице им. Ленина колеса всех автомобилей, которые ночевали у подъездов, проколоты.

В милицию пострадавшие владельцы автомобилей однако не обращались. Видимо, рассудили, что искать человека с шилом то же, что — ветра в поле. Хотя вероятная версия у всех на уме. Возможно, что с шилом прошелся по Березе тот, кто занимается вулканизацией резины. Но, повторяем, это только версия.

## Загадкавая смерць...

У панядзелак у Бярозе хавалі 19-гадовага хлопца. Горад напоўніўся чуткамі аб прычынах яго смерці. Яны сапраўды загадкавыя. Справа ў тым, што ўжо мёртвае цела хлопца знайшлі на ганку спартыўнай залы вытворчага аб'яднання "Бярозабудматэрыялы" каля 12 гадзін ночы. А ў той жа дзень ён прыходзіў у залу на добрым падпітку, і трэнер вымушаны быў выпраджваць яго адтуль.

По факту смерці маладога чалавека ўзбуджана крымінальная справа. Аднак вядома пакуль тое, што ён стаяў на ўліку ў міліцыі як злосны хуліган.

БАРАНОВИЧИ

## Девушки гуляют...

***"Девочки дерутся так, что трещат юбки и летят клочьями волосы. Буквально сдирают скальпы" — из рассказа инспектора ИДН И. В. Лышко.***

Две юные девушки избили ночью прохожего. Били так, что он несколько раз терял сознание. Летним вечером девушки гуляли в районе ул. Космонавтов. Мимо шел мужчина, и они попросили у него закурить. Сигарет не оказалось. Тогда одна из девушек нанесла удар в лицо и сбила с ног. Упавшего избивали ногами. Потерпевший получил перелом ребра, открытый перелом костей носа, многочисленные раны лица. К счастью для него, за углом стояла патрульная машина, и по горячим следам хулиганок задержали.

У девушек своя версия происшедшего. Избили они его якобы в целях самозащиты.

В настоящий момент несовершеннолетние девушки находятся в СИЗО, так как они совершили преступление по ст. 201 ч. 2 УК РБ.

По словам работников милиции, девичья преступность и хулиганство приобрели в последнее время массовый характер. Причем "слабому" полу свойственны особый цинизм, агрессивность и жестокость. Происходит все в основном на почве алкогольного опьянения. Особенно, когда девчонки подвыпьют на дискотеке, то начинаются жуткие драки, такие, что даже подготовленные милиционеры с трудом их разнимают.

Кисейные барышни в кринолинах остались в далеком прошлом? Что в будущем?

## А "Титаник" плывет

Вот уже второй раз при полном зале в Барановичах идет показ мирового бестселлера "Титаник". Перед каждым сеансом площадь у кинотеатра "Октябрь" полна народа. Несмотря на то, что многие видели этот фильм по видео и ранее в кинотеатре.

Значит — на хорошее и денег не жалко?
Выходит так!

● СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Пiлiп Пястрак — паэт, празаiк, грамадскi дзеяч



**27 лістапада — 95 гадоў з дня нараджэння Піліпа Пестрака, ураджэнца Івацэвіцкага раёна.**

Той хаткі, дзе нарадзіўся паэт, празаік, грамадскі дзеяч нашай Беларусі Піліп Сямёнавіч Пястрак, у яго роднай вёсцы Сакоўцы даўно няма. Але засталася памяць. Адзіная вясковая вуліца названа яго імем. Жыхары вёскі (а гэта ў большасці пенсіянеры) ведаюць і сустракаліся са сваім земляком. Аднак больш за ўсіх ведала пра Піліпа Сямёнавіча яго братавая Сцепаніда Аляксандраўна, з якой аўтару гэтага артыкула пашчасціла ў свой час сустракацца. Піліп называў яе ласкава Стэфка. На жаль, месяц таму яна памёрла.

Пасля вайны амаль кожны год, часцей улетку, Піліп Пястрак наведваўся ў Сакоўцы да свайго брата Аляксандра пабачыцца, пагасцяваць, што-колечы дапамагчы, адпачыць ад сталічнага шуму і тлуму.

— Вось тут на кухні, на ўслончыку, Піліп любіў сядзець, — расказвала Сцепаніда Аляксандраўна. — Сядзіць, бывала, і слухае, што я кажу. Яго цікавіла ўсё: і што новага ў вёсцы, і як справы ў калгасе, як жывуць людзі. Не толькі любіў паслухаць, але і сам меў ахвоту пагаманіць. А ў кампаніі за сталом ён быў вясёлы, гаваркі. А паслухалі б, як Сямёнавіч разам з братам спяваў. Пра пісанне сваё, пра работу ў сталіцы нічога не расказваў. Але я знаю пра Піліпавы кніжкі, у сельскай бібліятэцы ёсць....

— А яшчэ скажу вам, — працягвала Сцепаніда Аляксандраўна, — што Сямёнавіч вельмі многа хадзіў. Калі збіраўся ў Мінск, то пешака дабіраўся да Косава і наадварот. Машыны сабе не купляў і не хацеў мець, казаў, што гэта клопат лішні. У грыбы любіў хадзіць. Раненька ўставаў і бег у Буленскі лес. Ведаў там яшчэ колішнія мясцінкі, калі лесніком рабіў. Сам і перабіраў сваю лясную здабычу, па-майстэрску смажыў і сушыў грыбы. Вы б толькі пакаштавалі грыбны суп, прыгатаваны па ўласнаму рэцэпту. Пальчыкі абліжаш...

Я спухаў успаміны Сцепаніды Аляксандраўны і ўяўляў сабе чалавека простага, добрага і шчырага. Ён — выхадзец з сялянскай сям'і. Нарадзіўся тут, у Сакоўцах, 27 лістапада 1903 года. Бацька родам з Бялавіч. Піліп быў у сям'і перадапошнім сынам. А сям'я была вялікая, жылі бедна. Таму змалку Піліпку прывучалі да працы. Быў і падпаскам, і пастушком. А зімой вучыўся ў двухкласным вучылішчы. Скончыў пяць аддзяленняў.

Першая імперыялістычная вайна загнала сям'ю Пестракоў у Расію — у сяло Максімаўку Бузулукскага павета Самарскай губерні. У 1916 годзе спрабаваў паступіць у гімназію ў г. Самара, але спазніўся. Працаваў памочнікам справавода крэдытнага таварыства. Усё ж праз два гады стаў навучэнцам Бузулукскай гімназіі. Адсюль перайшоў на рабфак у г. Чапаеўск, правучыўся семестр і паступіў на гістарычны факультэт Самарскага ўніверсітэта. Адначасова працаваў настаўнікам.

Увосень 1921 года Піліп разам з бацькамі вярнуўся ў родныя Сакоўцы. Неўзабаве страшнае гора напаткала хлопца: памерлі бацька, сястра і брат, а сам ён захварэў на тыф. Ачуняўшы і набраўшыся сіл, Піліп уладкаваўся рабочым на лесапільні, потым працаваў леснікам. Тады ж яго мабілізавалі ў польскае войска, два гады аддаў службе.

З 1926 года ў жыцці Пестрака пачынаецца новая старонка. Па-першае, ён уступае ў Кампартыю Заходняй Беларусі, а таксама становіцца членам павятовага камітэта Беларускай сялянска-рабочай грамады ў мястэчку Косава.

А па-другое, ён спрабуе свае сілы ў паэзіі. Гэта і стала пачаткам літаратурнай творчасці Піліпа Пестрака. Вось радкі з верша, дзе ён звяртаецца да сваіх землякоў:

Уставай, галодны беларус,
Служыць радзімай справе,
Скінь з плеч прыгоны і прымус,
Здабудзь дарогу к славе.

З 1927 года Піліп Пестрак — сакратар Косаўскага падпольнага райкома і член Слонімскага акружкома КПЗБ. У тым жа годзе ў лютым ён удзельнічае ў Косаўскай палітычнай дэманстрацыі. Яго арыштоўваюць і амаль год трымаюць у астрозе.

Выйшаўшы на волю, Пястрак працягвае падпольную партыйную і рэвалюцыйную дзейнасць. Праз два гады ён зноў за турэмнымі кратамі, яго асудзілі на пяць гадоў.

Толькі ў 1933 годзе Пястрак выйшаў з астрога. Ні дня не адпачываў, і зноў уключыўся ў падпольную работу. Выдадзены правакатарамі, Піліп зноў асуджаны на пяць гадоў. У верасні 1939 года Чырвоная армія вызваліла яго з турмы.

Даваеннае жыццё і праца, гады вайны, пасляваенная дзейнасць Піліпа Пестрака з'яўляюцца яркім прыкладам служэння свайму народу, Бацькаўшчыне.

Працаваў ён сакратаром Гродзенскага гаркома (1939—40 гг.). Быў абраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку (1939 г.), членам паўнамоцнай камісіі на сесіі Вярхоўнага Савета СССР (1939 г.). У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху. Спярша быў радавым байцом, а потым супрацоўнічаў у газеце "Партызанская праўда". Працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры Саўнаркоме БССР (1943—45 гг.), навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1945—47 гг.). Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР (1940—46 гг.), а таксама дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1971—75 гг.). Член саюза пісьменнікаў СССР з 1939 года.

Нягледзячы на вялікую занятасць дзяржаўнай і грамадскай работай, Піліп Пястрак актыўна займаўся творчай працай. Першы зборнік яго вершаў "На варце" выдадзены ў 1940 годзе. Пасля гэтага выйшлі яшчэ два зборнікі паэзіі і паэма "Слова пра Мінск".

У пасляваенныя гады Піліп Пястрак выступаў пераважна ў галіне прозы. Найбольш вядомыя яго раман-эпапея "Сустрэнемся на барыкадах" і раман "Серадзібор", за якія аўтару прысуджана літаратурная прэмія імя Я. Коласа.

Першы твор — аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі супраць польскіх уладаў за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы. Другі — аб барацьбе беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Поўны збор твораў Піліпа Пестрака ў пяці тамах выйшаў у 1986 годзе. Тут сабраны ўся яго паэзія, проза, успаміны.

Кіпучая творчая і грамадская дзейнасць, 11 гадоў турэмнага зняволення падарвалі здароўе Піліпа Пестрака. Ён памёр 22 жніўня 1978 года.

На радзіме пісьменніка ў вёсцы Сакоўцы адкрыты музей, прысвечаны яго жыццю і творчасці. Раённая бібліятэка і вуліца ў Івацэвічах названы імем славутага земляка.

*С. КАЖАДУБ.*

● ШТО МАЕМ — НЕ ЗАХОЎВАЕМ

# Што пакінем нашчадкам?

**Да нас патэлефанавала работніца Івацэвіцкай нарыхтоўчай канторы. "Паглядзіце, як загаджаны лес ля вёскі Яглевічы, ля возера, што каля "алімпійкі". Раней у гэтым лесе можна было збіраць грыбы, а зараз брыдка і вочы апусціць. Ці робіць што-небудзь улады з такімі парушальнікамі экалогіі?**

XXX

Перш за ўсё мы пазванілі ў Яглевіцкі сельскі савет. "Кар'ер для смецця ля вёскі ёсць, і жыхары вёскі цудоўна ведаюць, дзе ён, — адказалі нам. — Як прымусіш людзей паважаць сваё наваколле? Ля кожнай хаты ж вартаўніка не паставіш".

Мы ўсё ж выехалі ў той лясок, які знаходзіцца паміж вёскамі Яглевічы і Галенчыцы. Ад першых уражанняў: бітае шкло, штукатурка, іржавы посуд, ламачча і г. д. сапраўды хочацца лаяцца. Прычым апошнімі словамі.

Паміж самымі Яглевічамі і ляском невялікі прасцяг, таму, магчыма, парушальніку, каб вынесці смецце ў лес, даводзілася скарыстоўвацца якой-небудзь тэхнікай: ці дарожнай фурманкай, ці трактарам, ці матаблокам. Дык чаму смецце не везці ў загадзя падрыхтаваны кар'ер, а везці ў лес, куды самім прыйдзецца час ад часу хадзіць? Каму ж такую спадчыну пакідаем? Няўжо вакол нашых вёсак трэба выкапаць суцэльныя кар'еры, каб чалавек, які нясе смецце, абавязкова не прайшоў міма?

Сапраўды, ля кожнай хаты вартаўніка не паставіш. Але ж сёння ў вёсках абраны старасты, якія маглі б засяродзіць увагу землякоў на абавязковасці выканання экалагічных нормаў. І пакараць вінаватага, калі такі ёсць. Паверце, зрабіць гэта нескладана.

А паглядзіце ў якім стане нашы дарогі, дакладней, прылягаючая тэрыторыя ля дарог. Бутэлькі, шкляныя і капронавыя, папера, абгорткі і скрынкі, іншыя рэчы, якія аўтамабілісты без вялікіх пакутаў сумлення выкідваюць. Але ж тут ёсць пытанне. На ўсім працягу дарогі той жа "алімпійкі" па нашым рэгіёне можна налічыць адзін-два кантэйнеры для смецця, практычна адсутнічаюць зоны адпачынку, тыя ж, якія ёсць, не абсталяваны належным чынам. Лес, увогуле, для ўсіх нас стаў агульным туалетам, кантэйнерам для смецця.



*НА ЗДЫМКУ: мо хто пазнае свае смеццевыя пакеты, выкінутыя пры дарозе непадалёку ад в. Яглевічы?*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

А берагі нашых вадаёмаў? Прайдзіце ўздоўж ракі Грыўда, якая з паўночнага боку агінае нашы Івацэвічы. Наколькі загравушчана яе ўзбярэжжа. Зноў тая ж бітая тынкоўка, цэгла, шкло, банкі з-пад фарбы і іншае бытавое смецце, якое жыхары бяздумна выносяць са сваіх падворкаў. Шмат што з гэтага смецця, зразумела, трапіць у раку, да якое, калі меркаваць па сентыментальных выказваннях сярэдняга беларуса, як быццам многа пяшчоты. Бо менавіта на берагах рэк беларусы адзначаюць свае народныя святы, нават песні прысвячаюць ім.

Але, відаць, паэзія душы і рэальная проза жыцця пайшлі ў розных накірунках. Нядаўна хлопец, з якім я ляжаў у бальніцы, расказваў, як у іх вёсцы Добромысель народ прызвычаіўся біць рыбу электравудамі. А што? Чым кепска? І ў ваду лезці не трэба. Той самы выпадак, калі "без труда можно вытащить рыбку из пруда". А тое, што пасля гэтых "аматараў" не застаецца нічога здольнага нараджаць патомства, што дзецям гэтых "рыбакоў" ужо ніколі не пакаштаваць рачной рыбы, нікога не засмучае. Лепш парагатаць над тым дзіваком, які ідзе лавіць рыбу на звычайную вудачку. А раней жа нашыя дзяды, бацькі маглі нават кашом налавіць у нашых рэках, сажалках, канавах акунёў, плотак, шчупакоў, лінёў, карасёў, уюнкоў. Сёння нічога не злавіць і сеткаю. Як тут не ўспомніць словы сучаснага паэта Ф. Іскандэра: "Чалавецтва амаль не змяняецца, яно толькі з кожным годам становіцца больш подлым". Улады, якім за палітычнай балбатнёй няма часу звяртаць на гэтую, відаць, несур'ёзную для іх тэму, праяўляюць поўную абыякавасць... Прыклады? Калі ласка! На днях купіў у кафэ "Крыніца" піражнае і, выйшаўшы, доўга шукаў смеятніцу, каб кінуць абгортку. Так і не знайшоў. Скажыце, калі ласка, куды кіне паперчыну сярэднестатыстычны жыхар Івацэвіч? Зразумела, што не ў карман пакладзе.

**Інфармацыя для роздуму.** Ва ўсім свеце тэма экалогіі — самая злабадзённая тэма. Дастаткова сказаць, што ў Германіі, Францыі, Аўстрыі, Галандыі пераважная большасць муніцыпалітэтаў (органаў мясцовых улад) складаюць "зялёныя". Не толькі за выкінутую бутэльку — за выхлапны газ улады за мяжой могуць забараніць далейшы рух аўтамабіля (таму нашым МАЗам і КАМАЗам рух за мяжу заказаны). Падобныя тэндэнцыі хваляй коцяцца на ўсход: да прыкладу, партыя "Кедр" у Расіі — даволі ўплывовая арганізацыя, а экалагічная партыя на Украіне нават здолела на выбарах пераадолець 5-працэнтны бар'ер і ўвайшла ў Вярхоўную Раду, чаго не здолелі дабіцца з дзесятак іншых самых розных партый. Толькі ў Беларусі экалагічная тэма непапулярная і пройгрышная. Яна акрэслена двума-трыма бессэнсоўнымі штампамі кштапту "Насельным пунктам — чысціню і парадак", што сёння гучыць такой жа бязглуздасцю як стабілізацыя нашай эканомікі. Сапраўды, больш важна змагацца з НАТА, ОРТ, ОБСЕ, БНФ, ЦРУ і іншымі ворагамі, большасць з каторых пра Беларусь, па вялікаму рахунку, і не ведаюць...

*А. МІХАЛЕНКА.*
**г. Івацэвічы.**

● *ТАКОВА ЖИЗНЬ*

# ДИАГНОЗ — СИФИЛИС

***Уровень венерических заболеваний в Беларуси по сравнению с 1988 годом увеличился в 152 раза — таковы данные Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ).***

За 9 месяцев текущего года в Барановичах зарегистрировано 195 случаев заболеваемости сифилисом, что почти на треть меньше, чем за аналогичный период прошлого года, 156 случаев гонореи против 154 в минувшем году. Но эти цифры не позволяют утверждать, что в нашем городе уменьшилось количество венерических заболеваний. По словам медиков, сейчас преобладает скрытая, бессимптомная форма венерических болезней: человек не может определить, болен он или нет, и продолжает вести активную половую жизнь. Многие занимаются самолечением.

По данным ВОЗ, на одного зарегистрированного больного СПИД приходится десять незарегистрированных больных, на одного больного гонореей — от пяти до десяти, на одного больного сифилисом — от трех до пяти...

Сказать, что ситуация с венерическими заболеваниями связана лишь с недоработками системы здравоохранения, невозможно. Огромное влияние оказывают социальные факторы. В Беларуси до сих пор нет закона о проституции, значит нет и законных оснований с нею бороться.

Попойки, драки, дебоши среди пациентов стационара Барановичского кожвендиспансера — не редкость. И дело не в том, что они нарушают больничный режим, а в том, что тем самым прерывается ход лечения. А получасовая задержка очередного укола перечеркивает весь курс лечения — его нужно начинать сначала. Для справки: минимальный набор медпрепаратов для полного курса лечения одного больного стоит около 3 млн. рублей.

Несколько дней назад пятеро пациентов кожно-венерологического диспансера устроили попойку и забрали у соседа по палате 800 тыс. рублей.

Происходят подобные случаи несмотря на то, что каждый больной в письменной форме предупреждается об обязанности лечиться и об ответственности за уклонение от лечения. Уклонением считается отказ пройти курс лечения, неявка на лечение без уважительной причины, приостановление лечебных процедур в связи с употреблением больным алкоголя или наркотиков, нарушение больничного режима. Статья 113 Уголовного кодекса РБ предусматривает за уклонение от лечения наказание в виде лишения свободы сроком до 2 лет или исправительных работ на тот же срок, или штрафом от 10 до 200 минимальных зарплат.

В текущем году по статье 113 УК РБ "Уклонение от лечения венерической болезни и заражение венерической болезнью" было заведено 8 уголовных дел. "Если строго следовать Букве закона, то нужно было бы судить каждого второго нашего пациента", — сказал Петр Павлович Дуняк, заведующий венерологическим отделением стационара.

Оксане, одной из участниц происшествия, 21 год. В диспансере она впервые, диагноз — сифилис. Говорит, что заразилась от постоянного партнера — встречались месяц. О парне знает только, что зовут его Гоша. По ее словам, сейчас он где-то в Гродно. А в Барановичи он приезжал к другу. Адреса она не помнит, хотя с Гошей встречалась на квартире у этого самого друга.

Оксана — сирота. Сейчас живет у старшей сестры в общежитии. Сестра имеет маленького ребенка.

Факт заболевания Оксане проблемой не кажется. Ведь она лечится. Гораздо больше ее волнует, как заплатить штраф за распитие спиртных напитков (700 тыс. рублей).

Работает Оксана в детском саду. Моет посуду.

Все пациенты диспансера, находящиеся на лечении в стационаре, могут свободно и в любое время выйти за территорию. Приобрести водку или какое-либо другое "горячительное" — не проблема. Были бы деньги. А 100 граммов выпитой водки — это выброшенные на ветер 3 миллиона государственных рублей. Потому что лечение нужно начинать сначала.

"Они удивительно быстро сходятся между собой, — говорит Петр Павлович Дуняк. — Через десять минут "новенький" знает всех. Тут же находятся общие темы, схожие проблемы. Появляется водка..."

Ночью в отделении остается одна дежурная медсестра, которая уследить за всеми не может просто физически.



Восемнадцатилетняя Света также лечится первый раз. В диспансере находится и ее парень. Говорит, что водку выпить ее пригласили девчонки, причем она долго отказывалась.

На контакт Света идет тяжело. Объяснительную она переписывала два раза. "Сначала я написала не то. На самом деле, участия в вымогательстве денег я не принимала. Я только выпила немного и сразу ушла спать, а что делали остальные, я не знаю".

Света работает на хлебозаводе.

Барановичский кожно-венерологический диспансер — лечебное учреждение открытого типа, как и любая больница в городе. В Бресте имеется аналогичное учреждение закрытого типа. Туда отправляют постоянных нарушителей режима, некоторые едут туда добровольно.

"Конечно, теоретически заражение от нашего пациента, разгуливающего по городу, возможно, — считает главный врач диспансера Алексей Федорович Волчкевич, — но на практике это маловероятно. Больной сифилисом менее опасен для окружающих, чем тот же туберкулезник. Ну, а закрыть своих пациентов, вывесить решетки на окнах, выставить охрану мы не имеем права..."

Для принудительного лечения лица, являющегося источником вензаболевания, требуется санкция прокурора, заставить больного лечиться можно лишь постановлением суда. В настоящее время на согласовании в министерствах здравоохранения, юстиции и внутренних дел находится приказ о принудительном обследовании для выявления венерических заболеваний. В документе должен быть четко определен контингент, который можно будет обследовать принудительно. Однако приказ рассматривается уже так давно, что врачи потеряли надежду на его подписание. Тем более, что до сих пор ни правительство, ни Министерство здравоохранения ситуацию по вензаболеваниям в Беларуси эпидемической не признают ("Белорусская деловая газета").

Инициатором попойки и последующего за ней ограбления был мужчина тридцати одного года, Андрей. Он не работает, находится на иждивении у родителей. Больничный режим нарушает не впервые. Поговорить с ним не удалось, так как он самовольно оставил лечение и скрылся в неизвестном направлении. Штраф, а также украденную сумму, придется выплачивать родителям.

Подобных примеров много. От некоторых историй волосы дыбом встают. Петр Павлович рассказал мне такую: "В прошлом году лечилась у нас девица, частая наша гостья. Тогда ей было лет семнадцать. Как сейчас помню, стоял октябрь месяц, холодина. Вбегает ко мне сестра и просит пойти посмотреть, что творится за сарайчиком. Оказывается, там наша Ольга еще с одним нашим пациентом вступили в половые отношения. На камнях, в октябре месяце. В объяснительной Ольга написала: "Я вступила в половые отношения с гражданином....., потому что он меня об этом попросил". Она часто уходила за территорию, иногда сразу с троими... Ольга очень коммуникабельна, всегда с удовольствием рассказывала о себе".

Количество людей, страдающих венерическими заболеваниями, практически не уменьшается. В прошлом году в Барановичах появился на свет ребенок с врожденным сифилисом. Его мать — работник медицинского учреждения...

По словам психолога центра "Дапамога" Елены Люциковой, которая проводит работу с больными раз в неделю на общественных началах, "для них такой образ жизни является нормой. Они могут жить в грязи и не замечать ее, могут вступить в половую связь с незнакомым человеком, потому что он об этом попросил, и не усмотреть в этом ничего плохого... Многие не находят понимания дома, там они — отверженные, в диспансере им лучше. Переболевшие не боятся повторного лечения — они через это уже прошли". Также Елена сказала, что с людьми в возрасте до 30 лет еще можно и нужно работать. "Их нужно понять, протянуть руку помощи, пока они не оказались на самом дне..."

Штатная единица психолога в диспансере не предусмотрена. Разрешения о ее введении пока добиться не удается. Зато решается вопрос о введении в диспансере штатного милиционера. Хотя бы на ночное время.

Врачи не в силах справиться со своими пациентами сами. Они вынуждены терпеть их поведение, выслушивать их оскорбления и лечить. Потому что лечить они обязаны. А на лечение венерических больных расходуются государственные деньги (и немалые). Но сами больные понимать этого не желают. Сиюминутное желание выпить лишает их рассудка. Водка ценится дороже здоровья (своего и окружающих).

Основной контингент венерических больных — бомжи, алкоголики, люди опустившиеся, "притонцы". У них свой склад мышления. Доверять им нельзя.

Что же делать в сложившейся ситуации? Терпеть? Делать вид, что этого нет?

На мой взгляд, единственное, что может пресечь уклонение от лечения, употребление алкоголя (на период лечения), распространение венерических заболеваний среди населения — решение вопроса о создании в городе венерологического заведения закрытого типа. С милиционерами возле дверей и решетками на окнах.

***М. КУЛИКОВА.***

г. Барановичи.

● *ПОСТ ДАІ*

# Трагедыя ля Ёлак

***Пачалася зімовая непагадзь, а разам з ёй пагоршылася становішча на нашых дарогах. Церпяць і парушальнікі правілаў дарожнага руху, і проста яго ўдзельнікі.***

Наглядным прыкладам гэтага стала зусім нядаўняя аварыя, якая адбылася ля павароткі на вёску Ёлкі. Вадзіцель іншамаркі, які ехаў з Гродна, вырашыў абагнаць машыну, што рухалася ўперадзе. У той дзень быў галалёд. Дарогу, праўда, пасыпалі пяском з соллю, але лёд поўнасцю не сышоў. Выскачыўшы з-за пярэдняй машыны, шафёр іншамаркі ўбачыў ледзь не перад сабой "Жыгулі". Што рабіць? Любы скажа — тармазіць. Такое ж рашэнне прыняў і вадзіцель Капцялоў. Але ж ён не ўлічыў, што пад калёсамі машыны галалёд, і калі спрацоўвае тормаз, то ён у такім становішчы з'яўляецца не памочнікам шафёра, а, наадварот, яго ворагам. Гэта павінны ведаць усе, хто сеў за руль аўтамабіля.

Капцялоў, як мне здаецца, ведаў гэтую простую ісціну, але ў дадзены момант, відаць, спрацавала звычайная звычка: калі небяспека — нага сама цягнецца да тормаза, пры тым імгненна. Затармазіўшы, машыну Капцялова пачало насіць туды-сюды. А гэта яшчэ больш небяспечна.

Шафёр сустрэчнай машыны "Жыгулі", які кіраваў Аляксандр Мірановскі з вёскі Хадакі Івацэвіцкага раёна, як сам ён расказаў і тыя, хто бачыў, узяў нават крута правей, каб неяк пазбегнуць сутыкнення. Усё ж не ўдалося.

Як мяркуюць сведкі, калі б шафёр іншамаркі не тармазіў (а такое рашэнне прымаецца за долі секунды), то ён меў шанц праскочыць паміж сустрэчнай машынай і той, што абганяў. Аднак такога зыходу, якога хацелася, не атрымалася.

Вынік аварыі вельмі сумны: два чалавекі загінулі і пяць паранена. У ліку загінуўшых дзве маладыя жанчыны з в. Хадакі. З пасажыраў іншамаркі ніхто сур'ёзна не пацярпеў.

Па факту гэтага дарожнага здарэння ўзбуджана крымінальная справа, ідзе расследаванне. Суд адкажа на ўсе пастаўленыя пытанні, вызначыць вінаватых і меру пакарання.

Трагедыя ля вёскі Ёлкі яшчэ раз пацвердзіла тое, аб чым тыдзень назад мы пісалі: у асенне-зімовы перыяд трэба быць асабліва ўважлівым і асцярожным, строга выконваць правілы дарожнага руху. Не ўсе яшчэ гэта засвоілі. І вельмі шкада.

У сувязі з гэтай трагедыяй яшчэ раз хацеў бы засяродзіць увагу ўсіх вадзіцеляў, што асенне-зімовы перыяд — самы небяспечны для руху транспарту (галалёд, снег, мяцеліца, дрэнная бачнасць). Абгон у такіх умовах вельмі небяспечны. Паберагчы сябе і тэхніку — справа кожнага, хто сеў за руль машыны.

***У. КВАША,***
***старшы інспектар аддзялення дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.***

● *КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"*

# Змяёй ляціць за намі стронцый

Ляціць са мною ў небе бусел.
Кантрастнасць фарбаў у вачах.
Да сонца ў полі беларусы
Трымаюць край свой на плячах.

А мы ляцім-ляцім далёка,
Наш шлях цярністы і бясконцы.
Між хмар мне хочацца галёкнуць —
Змяёй ляціць за намі стронцый.

Нямала вёрст мы адмахалі,
Нат смерць сваю перамаглі.
На нівах звоняць жытаў хвалі,
І раптам цемрадзь на зямлі...

Маланка пасмы распусціла,
Здаецца, хоча нас спаліць,
І стукнуў гром — крутая сіла:
Аж кнігі падаюць з паліц.

Прабачце мне, мае вы людзі,
Палёт мой з буслам — гэта сон.
А дождж шуміць, шумець шчэ будзе...
Шукаю ў шафе парасон.

***Пятро ВАЛІНСКІ,***
***вёска Стайкі.***

